# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 25 (2271) 18 чэрвеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)


## ПРЭМ'ЕРА ТВОРА

Вяртаецца да нас пакрысе гістарычная памяць, нягледзячы ні на якія цяжкасці і перашкоды. Працэс нацыянальнага культурнага адраджэння паступова і ўпэўнена набірае сілу. Упэўнена таму, што на чале яго становяцца маладыя і таленавітыя людзі, якім неабыякавы лёс Бацькаўшчыны і якія спрабуюць сказаць сваё слова ў абарону нацыянальнай культуры, а значыць і будучыні нацыі.

На нядаўна адкрытай чарговай экспазіцыі беларускіх мастакоў у галерэі «Медэя», якая праходзіла пад назвай «Прэм'ера твора», прыемна здзівіў выпускнік скульптурнага аддзялення Беларускай акадэміі мастацтваў Леанід Яшэнка скульптурнай кампазіцыяй «Ефрасіння Полацкая», якая праз некалькі тыдняў стане яго дыпломнай працай, а ў канцы года па дамоўленасці з мясцовымі ўладамі Полацкаператворыцца ў помнік слыннай дачцэ беларускага народа, князёўне і асветніцы.

Сама канцэпцыя выставы «Прэм'ера твора» ў галерэі «Медэя» была такой, што, здавалася, дух Ефрасінні Полацкай сапраўды лунаў у зале. А калі прыгадаць, што ў гэты час на Беларусі праходзіла Свята славянскага пісьменства і славянскай культуры, то ў межах рэспублікі гэтая мастацкая выстава набыла сімвалічнае значэнне. Нельга не прыгадаць і пластычны твор мастака М. Інькова — плакетку ў метале «Св. Кірыла Тураўскі», які дапаўняў і пашыраў тэму экспазіцыі.



НА ЗДЫМКУ: скульптурная кампазіцыя Л. ЯШЭНКІ «Ефрасіння Полацкая».

(Заканчэнне на 6-й стар.).

***МАЁ АСАБІСТАЕ СТАЎЛЕННЕ***

## ФРАНЦУЗСКАЯ НАВАЛА І ПАСЛЯ ЯЕ

*(ДА 180-годдзя НАПАЛЕОНАЎСКАГА НАШЭСЦЯ)*

Дзіўныя з'явы калі-нікалі маюць месца ў жыцці. Час чамусьці згладжвае нават самыя дзікія злачынствы перад чалавецтвам. А пачварныя постаці не без дапамогі гісторыкаў, даследчыкаў, біёграфаў набываюць паступова арэол герояў. І гэта наглядна відаць у адносінах да французскага імператара Напалеона Банапарта. Кнігі аб ім у нашай рэспубліцы хутка знікаюць, і нават у дні «застою» іх немагчыма было прыдбаць. Торт «Напалеон» свабодна прадаецца ў рэстаранах і кафэ, сталовых і магазінах. Я ўжо не кажу пра каньяк «Напалеон». І пасля гэтага не дзіўна, калі пачуеш, што імя таго ці іншага чалавека—Напалеон. З гісторыі мы ведаем, што быў у Францыі маркіз дэ Сад. Дык яго нават суродзічы праклялі і пазмянялі свае прозвішчы на іншыя. Ад таго маркіза пайшло слова «садызм». А мы ведаем, што гэта такое.

Што з намі робіцца? Як хутка мы губляем сувязь часоў і народную памяць! Чаму ў Францыі (асабліва на яго радзіме на востраве Корсіка) ды ў нашай краіне шануюць і славяць імя Банапарта?

Я чытаю, а ў мяне душа млее і сэрца пакутуе, што ў 1811 годзе ў цяперашняй сталіцы Беларусі было каля 11 200 чалавек, а ў канцы 1812 года засталося толькі 3 480. У Віцебску ў пачатку 1812 года на ўліку было 7 808 мужчын, а ў канцы 1813-га іх стала ўсяго толькі 2 415. Мы нярэдка гаворым аб генацыдзе ў Камбоджы, але як можна яго параўнаць з ліхадзействамі французаў на шматпакутнай беларускай зямлі? Па свайму размаху, шырыні і насіллю над нашым народам яны роўныя нямецка-фашысцкай акупацыі.

Найбольш яскрава пра часы Айчыннай вайны напісаў акадэмік У. Ігнатоўскі: «Вайна 1812 году дашчэнту спусташыла тэрыторыю Беларусі і пакрыла яе трупамі. Беларусь зрабілася нейкай сусьветнай трупярняй. Вядома, напрыклад, што на адну вярсту тэй дарогі, па якой выходзіла з Масквы напалеонаўская армія, прыходзілася ў сярэднім больш за сто трупаў. На Беларусі пачынаецца голад, насяленьне вымірае ад тыфусу, цынгі і халеры. Цэлыя вёскі стаяць пустымі». (Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5 выд. Мн.: Беларусь, 1991).

Праўда тут вось якая: раны 1941—1944 гадоў свежыя, яны да сёння яшчэ краваточаць. А французскае нашэсце як быллём парасло і нават у вучоных манаграфіях (асабліва ў Маскве!) атрымлівае ружовую афарбоўку.

Беды, пакуты, разарэнне Беларусі ў былой школьнай гісторыі СССР, падручніках у інстытутах і універсітэтах застаюцца незаўважанымі. Уся Айчынная вайна 1812 года бачыцца іх аўтарам як супрацьстаянне Банапарта і Кутузава, хто з іх дужэйшы, хітрэйшы, спрытнейшы, таленавіцейшы. Вось і прыклад: «Факты нужно отбирать

(Заканчэнне на 4, 5-й стар.).

МІКАЛАЙ ДЗЯТКО: «НЕ Я ВЫБІРАЎ ПРАФЕСІЮ, А ЯНА МЯНЕ»

## АЎТОГРАФЫ АРХІТЭКТАРА

...У гэтым, здавалася, не было ніякай логікі: хлопец паспяхова заканчваў сярэднюю школу, а далейшы шлях у жыццё выразна не вырысоўваўся. З многіх сотняў прафесій падабалася некалькі і нічога канкрэтнага.

І тады па парадзе бацькі паступіў у політэхнічны інстытут—вырашыў стаць архітэктарам. Выбар, як сказаў мне ў гутарцы Мікалай Дзятко, быў зроблены ўдала. Вучоба давалася лёгка. І таму студэнцкія гады праляцелі непрыкметна.

А пасля пачаліся рабочыя будні. Такія непадобныя на тыя мары і планы, якія былі ў інстытуце. Ад рамантычных «паветраных замкаў» не засталося і следу. Як выказаўся сам Мікалай Міхайлавіч, на першым плане была работа, а задумы, творчасць, справа па душы аказаліся дзесьці далёка-далёка.

Але, на думку спецыялістаў, пачатак зроблены вельмі добры. Маецца на ўвазе першы самастойны «аўтограф» маладога архітэктара — вёска Вяляцічы. Яна не можа не радаваць вачэй: прыгожыя дамы-катэджы, роўныя вуліцы, многае іншае. І ўсё-такі нешта не задавальняла Мікалая Міхайлавіча.

— Некаторыя людзі разважаюць: перасялілі чалавека з халупкі-развалюхі — няхай радуецца, што сцены не абваляцца, што на галаву вада не капае, цёпла зімой. А яму гэтага мала! Чаму нашы пасёлкі, вёскі аднатыпныя, стандартныя?!

Аднолькавае надакучлівае, прыядаецца, набівае аскоміну. І чаму гэта мы, архітэктары, праекціроўшчыкі павінны думаць за селяніна: будаваць так, як мы хочам, а не так, як хоча ён сам. Давайце пойдзем ад простага. Скажам, адпрацаваў чалавек у калгасе, дома падхадзіўся, захацелася яму чым іншым заняцца. Напрыклад, пасталярнічаць. А дзе? Няма месца, каб нейкую маленькую майстэраньку зрабіць. Калі ж і пабудуе, то і прыкрыкнуць на яго мясцовыя ўлады: «Навошта агульны вясковы інтэр'ер псуеш? Гэта не прадугледжана планам».

(Заканчэнне на 3-й стар.).



НА ЗДЫМКУ: архітэктар Мікалай ДЗЯТКО ля распрацаванага ім макета храма Ушанавання іконы Божае Маці «Усіх Тужлівых Радасці».

Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.

МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС

## ЭКАНОМІКА — ПА-ЗА ПАЛІТЫКАЙ

Першы Міжнародны кангрэс прамыслоўцаў і прадпрыемцаў планавалася правесці ў Азербайджане. Але з-за нестабільнасці абстаноўкі там было вырашана перанесці яго ў Мінск. У ім прымалі ўдзел 18 краін: усе рэспублікі былога Саюза, а таксама прадстаўнікі Балгарыі, Венгрыі, Польшчы.

На парадку гэтага прадстаўнічага форуму стаяла адно пытанне: каардынацыя дзейнасці ўсіх дзяржаў ва ўмовах нарастання крызісу ў эканоміцы. Разрыў гаспадарчых сувязей паміж прадпрыемствамі, размешчанымі ў розных, цяпер ужо незалежных дзяржавах, як вядома, прывёў да таго, што паміж імі не заключаюцца дагаворы. Больш таго, страчаны механізм адказнасці за аднабаковую адмову ад выканання падпісаных. Таму дзелавым людзям трэба было падпісаць пагадненне аб парадку заключэння і выканання гаспадарчых дагавораў, якое будзе насіць рэгіянальны характар і павінна быць ратыфікавана парламентамі дзяржаў, што ўваходзяць у СНД, а таксама іншых дзяржаў, якія арыентуюцца на адзіную эканамічную прастору.




Выступаючы перад пачаткам работы кангрэса і пасля яго на прэс-канферэнцыі перад журналістамі, старшыня-каардынатар Савета МКПП, прэзідэнт Расійскага саюза прамыслоўцаў Аркадзь Вольскі падкрэсліў, што галоўная мэта кангрэса дасягнута: «Гэта — далейшае яднанне прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, развіццё ўсебаковых сувязяў паміж імі. Я лічу, і са мною згодны былі ўдзельнікі кангрэса, што адбілася ў многіх выступленнях яго ўдзельнікаў, — эканоміка павінна быць па-за палітыкай».

Прадпрыемцы на гэтым форуме разгледзелі шэраг прававых пытанняў, праблемы цэнавай палітыкі, а таксама канкрэтызавалі структуру Міжнароднага кангрэса прамыслоўцаў і прадпрыемцаў.

**НА ЗДЫМКУ:** на кангрэсе МКПП.

ПРЫЗНАЧЭННІ

## ВЫПРАЎЛЯЮЦЦА ПАСЛЫ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь назначыў Пятра Садоўскага Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Беларусі ў ФРГ, а Уладзіміра Сянько — Надзвычайным і Паўнамоцным паслом у Польшчы.

Пётр САДОЎСКІ. Да нядаўняга часу — старшыня парламенцкай Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Буцькаўшчына на Віцебшчыне. Беларус, кандыдат філалагічных навук, па спецыяльнасці — выкладчык нямецкай і іспанскай моў.

Пасля заканчэння ў 1964 годзе мінскага інстытута замежных моў працаваў выкладчыкам, перакладчыкам, інжынерам-патэнтазнаўцам.

Уладзімір СЯНЬКО. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Вішковічы Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Беларус, закончыў станкабудаўнічы тэхнікум, служыў у арміі, затым вучыўся ў Маскоўскім інстытуце міжнародных адносін. На працягу многіх гадоў працаваў у пасольстве былога СССР у Польшчы. З 1991 года — намеснік міністра замежных спраў Беларусі.

Валодае польскай, англійскай і французскай мовамі.

НАША МАРКА

## БРЫЛЬЯНТАВАЯ ЗОРКА

Міжнародны камітэт па адбору Нацыянальнага інстытута па маркетынгу, які складаецца з прызнаных прафесараў Амерыкі і Еўропы, прысудзіў узнагароду «Міжнародная брыльянтавая зорка» Кобрынскаму інструментальнаму заводу — за якасць вырабляемых на гэтым прадпрыемстве напільнікаў, гаечных ключоў і іншых інструментаў.

Узнагарода ўручалася ў аддзеле «Фіеста Амерыкана» ў Мехіка. На цырымоніі прысутнічалі лідэры бізнесу з розных краін, кіраўнікі рэкламных кампаній, дзеячы мастацтва і культуры.

Прадстаўнікі Кобрынскага інструментальнага завода не змаглі ўдзельнічаць у цырымоніі: не паспелі афарміць дакументы на выезд з рэспублікі. Спецыяльна для такога выпадку ў атрыманым з Мехіка запрашэнні значылася: «Прыз добраахвотнага атрымання»...

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● У Гомелі адбыўся агульнагарадскі сход камуністаў — членаў ПКБ. На ім прысутнічала каля 400 чалавек з горада і некаторых раёнаў вобласці. Была створана гарадская тэрытарыяльная арганізацыя ПКБ, яе выканаўчы камітэт.

● Прэзідыум Вярхоўнага Савета выдаў пастанову, паводле якой народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, што працуюць у парламенце на прафесійнай аснове, маюць права на штогадовы аплачваемы водпуск у перыяд з 15 чэрвеня па 15 жніўня.

● Сёлета Ваўкавыск святкуе 740-годдзе свайго заснавання, а на другі год адзначыць 490 гадоў з дня атрымання горадам магдэбургскага права.

● Споўнілася 102 гады Еве Астапец, жыхарцы Давыд-Гарадка. Ева Сямёнаўна жыве разам з 78-гадовай дачкой, за межы двара не выходзіць, але яшчэ адчувае сябе добра.

● Адбылася прэзентацыя рэспубліканскай тэлефоннай станцыі, якая займела статус міжнароднай: цяпер жыхар Мінска са свайго хатняга або службовага тэлефона можа без праблем пазваніць у любы горад Вялікабрытаніі, Германіі, Польшчы. У перспектыве гэта зможа зрабіць кожны жыхар Беларусі, да вызначаных трох напрамкаў дабавяцца яшчэ дзевяць.

● Брэсцкі элетралямпавы завод разам з кампаніяй «Мауна карпарэйшн» ствараюць у Іярданіі міжнародную электратэхнічную кампанію. Наш бок будзе мець 43 працэнты долевага ўдзелу. Першая лямпачка будзе выпушчана праз год.

● Закрыты рачны вакзал у Мазыры: ён прыносіць адны страты. Людзі перасталі карыстацца рачнымі суднамі з-за шалёнай цаны на білеты. У хуткім часе такі ж лёс, відаць, напаткае і Гомельскі рачны вакзал: на яго рахунку толькі за красавік 800 тысяч рублёў страт.

● Развітыя еўрапейскія краіны маюць 906 кіламетраў дарог цвёрдага пакрыцця на 1000 квадратных кіламетраў тэрыторыі. Беларусь — усяго 337 кіламетраў. Да 2005 года прадугледжваецца пабудаваць толькі ў сельскай мясцовасці 70—80 тысяч кіламетраў дарог.

● Меш за 40 працэнтаў апытаных вайскоўцаў, што праходзяць службу ў рэспубліцы, станоўча ўспрымаюць назву нашай дзяржавы. А яе сімвалы — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг ухвалілі толькі каля 18 працэнтаў вайскоўцаў.

ПРЫСТУПКА ДА СЕМІНАРЫІ

## ДУХОЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

Пачаўся набор слухачоў у гомельскі Духоўны універсітэт маральнасці і культуры, які ў бліжэйшы час адкрываецца ў горадзе.

Мяркуючы па ўсім, вучоба тут будзе насіць духоўна-свецкі характар, бо да выкладання ва універсітэце прыцягнуты, акрамя свяшчэннаслужыцеляў, педагогі ВНУ горада. Слухачам будуць чытаць гісторыю рэлігіі, Закон Божы, біблейскія сюжэты ў мастацтве і іншыя не зусім прывычныя для нас дысцыпліны. Праўда, за заняткі, якія будуць праходзіць раз у тыдзень, прыйдзецца плаціць. Мяркуецца, што пры універсітэце для веруючай моладзі будзе арганізавана падрыхтоўка да паступлення ў духоўную семінарыю, і дыплом аб заканчэнні універсітэта стане лепшай рэкамендацыяй для гэтага.

Рэктарам універсітэта выбраны епіскап Гомельскі і Мазырскі Арыстарх.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## КОЖНАМУ ЗАМЕЖНАМУ ТУРЫСТУ — ПА ПАРАВОЗУ

У першай дэкадзе чэрвеня адбылася прэзентацыя акцыянернага таварыства «Белінтур». Як адзначыў падчас прэс-канферэнцыі з гэтай нагоды старшыня яго праўлення Яраслаў Няхай, новая ўстанова ўзнікла на грунце Дзяржкамінтурыста, сто працэнтаў працаўнікоў якога, цяпер ужо былога ведамства, выказалі згоду і жаданне працаваць у ёй.

У склад заснавальнікаў, якія далі жыццё «Белінтуру», уваходзяць: Мінскбізнесбанк, Беларуская чыгунка, фірма «Брэстінтур», Беларускае ўпраўленне грамадзянскай авіяцыі, гасцініцы «Планета» і «Юбілейная». Усе яны непасрэдна звязаны з замежным сервісам.

Той жа прамоўца прыпыніўся і на задачах акцыянернага таварыства ў аднаўленні і развіцці індустрыі турызму на Беларусі. Неабходна «павярнуць ранейшых партнёраў з былых сацыялістычных краін да нас тварам». Сувязь з імі, як і з іншымі іншаземнымі фірмамі, будзе ажыццяўляцца з дапамогай прадстаўніцтваў расійскага «Інтурыста», аб чым ужо дасягнута дамоўленасць з Масквой. У планах нованароджанай структуры значыцца і аднаўленне спецыяльных тураў, якія славіліся раней, але былі зліквідаваны гадамі крызісу. Размова ідзе аб балетных, асабліва аб спецыяльных турах для спартсменаў, футбалістаў і хакеістаў.

Увогуле кажучы, гэта сфера дзейнасці дзяржавы, якая лічыцца высокарэнтабельнай, перажывае заняпад, аб чым сведчыць і дынаміка замежнага турызму. У 1989 годзе сталіцу незалежнай Беларусі наведалі 130 тысяч падарожнікаў з замежжа, у 1990-м — 50, 1991-м — 30.

Між тым у нашай рэспубліцы ёсць добрыя кандыцыі для дзейснага і разумнага гаспадарання ў гэтай галіне, што і даказвае «Брэстінтур», дзе кіраўніком В. Шыманка. Можна згадаць і пра паляванне ў Белавежскай пушчы, рыбалку і адпачынак на Нарачы і Браслаўскіх азёрах. Узнікаюць і даволі экстравагантныя для нашага беларускага вока віды баўлення. Аматары паравозаў з Англіі нядаўна наведалі Беларусь, дзе здзейснілі сваю мару пакатацца на гэтых машынах, вестунах тэхнічнага прагрэсу пачатку XX стагоддзя, якія ў нас яшчэ не паспелі заржавець.

У размове кіраўнікоў асацыяцыі з журналістамі была закранута і тэма турыстычных сувязей з замежнымі суайчыннікамі, аднымі з самых зацікаўленых, патэнцыяльных наведвальнікаў Бацькаўшчыны. «Белінтур» працуе над вялікай праграмай захадаў па актывізацыі такіх кантактаў з землякамі, што жывуць у Ізраілі. Цяпер яны, атрымаўшы візу ў Беларусь, могуць свабодна працягваць падарожжа па іншых краінах СНД. Аднак праблемы візавай зоны існуюць. І калі ў адносінах да Ізраіля пытанне вырашана, застаецца тут прапанаваць турыстычны прадукт, дык з іншымі дзяржавамі, напрыклад, з Тайванем, наадварот. Вядома, што цікавіць тайванцаў больш за ўсё, а з візай цяжэй. У Маскве яна каштуе 120 долараў, у Мінску — 40. Над гэтым пытаннем праца працягваецца. Відаць, нам пашанцавала, што мы — не тайванцы...

Рыначныя адносіны даюць шанц прыватным турыстычным канторам скласці канкурэнцыю акцыянернаму таварыству. Тым не менш прадстаўнікі апошняга заявілі, што гатовы да супрацоўніцтва, але прыватны гешэфт «не можа захаваць сур'ёзнага турыста». Сёння ён абмяжоўваецца бізнестурамі ў Турцыю і суседнюю Польшчу, не забяспечваючы айчынных кліентаў варункамі нават першай неабходнасці, а аб цывілізаваным сервісе для заходніх пакуль што гаварыць не даводзіцца.

Але і акцыянераў «Белінтура» чакаюць немалыя складанасці, якія яны добра бачаць. Безумоўна, замежны турызм немагчымы без транспартнага абслугоўвання. А транспарт — без дзяржаўных датацый, у тым ліку і валютных. І на паветраным флоце, і на чыгунцы склалася вельмі цяжкае становішча. Парадаваць пасажыраў пакуль няма чым. Нягледзячы на тое, што плата за праезд і без таго высокая, тэндэнцыя да яе росту будзе мець месца і надалей. Ды шлях да выхаду з крызісу (адзін з іх) якраз і праходзіць праз станаўленне і ўдасканальванне беларускай індустрыі замежнага турызму.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.

БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІЯ АДНОСІНЫ

# НЕ «СТАРЭЙШЫ БРАТ», А СЯБАР

12 чэрвеня народы Расіі ўпершыню адзначылі Дзень незалежнасці. Споўніўся год з дня ўтварэння новай дэмакратычнай расійскай дзяржавы. Напярэдадні свята карэспандэнт БЕЛТА сустрэлася са Старшынёй Савета Міністраў Беларусі Вячаславам Кебічам і папрасіла яго коратка прааналізаваць стан двухбаковых адносін з Расіяй, перспектывы іх развіцця. Кіраўнік беларускага ўрада сказаў:

— У нас, у Беларусі, цяпер стала модным крытыкаваць урад за тое, што ён нібыта ідзе ў фарватары расійскай палітыкі. Робяць гэта і левыя сілы, і правыя. Я такой крытыкі рашуча не прымаю. Заяўляю з усёй адказнасцю: мы вядзём паўнакроўную самастойную палітычную лінію. Але грэбаваць існуючымі добрымі адносінамі з Расіяй было б проста неразумна. Наадварот, у дзелавых і ўзаемавыгадных адносінах з велізарнай краінай мы бачым вялікія магчымасці для дынамічнага развіцця Беларусі.

Хачу вярнуцца крыху назад, да пачатку 1992 года. Кіраўніцтва рэспублікі з пэўнай трывогай уступала ў паласу пераходу да рынachных адносін. Мы не кінуліся па прыкладу іншых у рынак, як у вір галавой, і не пабаяліся пакінуць у прамысловасці дзяржаўны заказ. Гэта дало магчымасць пазбегнуць анархіі, захаваць эканамічную раўнавагу і кантраляваць сітуацыю.

Але распад Саюза ССР паставіў яшчэ адну вельмі складаную задачу — тэрмінова наладжваць новыя эканамічныя сувязі паміж краінамі СНД. Вядома, у першую чаргу мы звярнуліся да вялікай Расіі. Гэта і зразумела, таму што ў нашым агульным валавым нацыянальным прадукце яна займае самае значнае месца. У многіх беларускіх і расійскіх прадпрыемстваў склаліся добрыя, пабудаваныя на ўзаемных інтарэсах і павазе адносіны. Адмовіцца ад усяго гэтага на карысць некаторым палітыкам? Такі крок, акрамя шкоды абодвум бакам, нічога б не прынёс.

26 чэрвеня ў нас у Мінску намечана правесці чарговую сустрэчу кіраўнікоў урадаў СНД. Я як прэм'ер-міністр рэспублікі, у якой знаходзіцца штаб-кватэра Садружнасці, зраблю ўсё, каб яна існавала, а не распалася.

На жаль, мы не бяром прыклад з еўрапейскіх дзяржаў, якія імкнуцца да інтэграцыі ў рамках адзінай Еўропы. Бо ніхто ў свеце не сумняваецца ў суверэннасці і незалежнасці нават самых маленькіх з іх. І краінам СНД ніхто не перашкаджае, застаючыся незалежнымі, мець добрыя адносіны адна з адной і дапамагаць у меру сіл зноў-такі адна адной эканамічна, застаючыся ў Садружнасці. Тым больш, што мы пакуль што з'яўляемся «сіямскімі блізнятамі», не гатовымі да раз'яднання. Зыходзячы з гэтага, заклікаю захаваць Садружнасць. Я разумею, што ў гісторыі можа здарыцца ўсякае. Дапускаю нават, што хтосьці з цяперашніх членаў Садружнасці можа яе пакінуць. Але рабіць з гэтага трагедыю, панікаваць прычын няма.

Цяпер мы з уласцівым беларускаму народу спакоем распрацоўваем канцэпцыю двухбаковых узаемаадносін з усімі рэспублікамі СНД. Вось гэтаму прыклад. 26 чэрвеня мы маем намер заключыць шматпланавы, усеабдымны дагавор з Расіяй. Яго падпішуць міністры замежных спраў. Так што ў будучыню беларуска-расійскіх адносін я гляджу з аптымізмам.

Валянціна МЕНШЫКАВА.

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# АЎТОГРАФЫ АРХІТЭКТАРА

Аб якіх зручнасцях можна казаць, калі ў такіх «тыпавых» вёсках, што мне прыходзілася распрацоўваць, прадугледжваецца для адной сядзібы зямлі ледзь ці не на адну толькі градку. Добра, цыбулю, напрыклад, ты там пасадзіш, а агуркі, бульбу?.. Бяры нямоглая, старэнькая бабулька за некалькі кіламетраў зямлю пад тую ж бульбу?!

— Ці не здаецца вам, Мікалай Міхайлавіч, што вы кідаеце камень у свой агарод? Навошта ж было праектаваць тыя ж Вяляцічы такімі стандартнымі, як вы кажаце?

— Каб жа была мая воля. Прадставіш праект свайму кіраўніцтву, і пакуль пройдзе ён усе інстанцыі, пшык атрымоўваецца — так урэжуць, спросцяць, абкарнаюць: ні сабе, ні людзям радасці не прыносіць твая архітэктурная распрацоўка. Не, не ва ўсім я вінавачу кіраўніцтва. І яны за тое, каб добра і зручна людзям жылося ў нашых дамах. Толькі раптам аказваецца: то матэрыялаў не хапае, то нейкі старшыня-мудрэц папросіць «пацясніцца», каб менш



плошчы вёска займала (і гэта цяпер, калі многа зямлі пустуе ў калгасах!).

— Можа вы за тое, каб не чапаць вёскі, няхай самі як хочуць, так і аднаўляюцца, без староннняй, «гарадской» дапамогі?

— Не. Вёска цяпер не ў стане весці добрае будаўніцтва сама. І наша дапамога патрэбна. Але я бачу яе строга індывідуальнай: няхай я, архітэктар, перад тым як пачынаць праектаваць, абыду літаральна кожнага будучага навасёла і спытаю: «Што табе патрэбна акрамя самой хаты, хлява ці гаража? Можа яшчэ майстэрню, лазню?..»

Чалавек, якому спадабалася абраная прафесія, шукае работу для душы, стараецца ўвасобіць у жыццё свае задумы. Нялёгка ўсё гэта даецца. Нярэдка здараюцца і расчараванні, і няўдачы. Вось і з Мікалаем Міхайлавічам так. Адразу скажам: не па душы аказалася работа «вясковага» архітэктара.

І Мікалай Дзятко пераходзіць працаваць у інстытут «Белдзяржпраект». Тут падабраўся творчы калектыў з трынаццаці чалавек. Займаецца архітэктурнымі распрацоўкамі школ, культурна-бытавых аб'ектаў. На жаль, уся гэта творчасць абмяжоўвалася строгімі рамкамі: «свайго» няшмат чаго ўнясеш: не павінна быць ніякай самадзейнасці, а калі што і ўдавалася «прабіць», то ізноў фінансаў не хапае, то матэрыялы патрэбныя не знаходзяцца.

— І ведаеце, склалася дзіўная сітуацыя,— разважае Мікалай Міхайлавіч,— энергія, як кажуць, б'е праз край, працуй ды працуй, а тут табе нібы рукі звязваюць. Калі каму-небудзь прыходзілася бываць на вуліцах Кедышкі ці Валгаградскай у Мінску, то не мог ён не звярнуць увагу на архітэктуру іх: стаяць аднолькавыя пабудовы, жылыя дамы як запалкавыя пачкі — ні фрэсак, ні іншых упрыгажэнняў.

Раней казалі: «Нядаўна вайна скончылася. Людзям хоць нейкі дах над галавой патрэбны. Не да прыгажосці. Трэба як мага хутчэй будаваць дамы».

Усё зразумела. На жаль, будаўнічы голад спатоліць і па сёння не ўдалося. І ўсё-такі не маем мы права такія «безаблічныя» пабудовы ўзводзіць. Хаця я супраць і занадта шыкоўных аб'ектаў. Напрыклад, не ўпэўнены, што Рэспубліканскі палац культуры прафсаюзаў на Цэнтральнай плошчы стане архітэктурнай візітнай карткай Мінска. Затое мне, спецыялісту, добра бачна, у якую капеечку выльецца гэта будаўніцтва.

— Мікалай Міхайлавіч! Вы ў «Белдзяржпраекце» прапрацавалі не адзін год. Няўжо нічога створанага вамі не хочаце запісаць у свой актыў, што б прынесла задавальненне? Ці, праходзячы міма аб'екта, узведзенага па вашаму праекту, не стараліся сарамліва адварочваць ад яго галаву?

— Бачыце, складана адказаць на ваша пытанне. Чаму я павінен адварочваць галаву ад маіх распрацовак? Кожнае збудаванне, школа або дзіцячы сад, скажам, не псуе выгляду ніводнаму мікрараёну Мінска. Іншая справа, што не ўсё ўдалося зрабіць, як задумваў. І чаму, напрыклад, нас прымушаюць будаваць (а больш дакладна — праектаваць) «тыповыя» аб'екты, падобныя нават у кожнай дробязі, як дзве кроплі вады?!

Каб доўга не расказваць, не крытыкаваць сваю работу, зазначу: лепшай з'яўляецца школа спартыўнага рэзерву, што на вуліцы Філімонава... Тут мне ўдалося найбольш удала справіцца з задумай, унесці сваё, адышоўшы ад традыцыйных для многіх архітэктараў распрацовак.

Удумлівага і няўрымслівага архітэктара заўважылі і за межамі сталіцы. Паступаюць заказы на праектаванне музея-панарамы з Барысава і з Польшчы, з Сувалак на ўзвядзенне школы. Яго заўважылі, яго сталі цаніць як высокакваліфікаванага спецыяліста.

І таму некалькі нечаканым для сяброў і супрацоўнікаў «Белдзяржпраекта» стала звальненне Мікалая Дзятко з інстытута. Ён адкрывае сваю майстэрню. А першая работа яго таксама для многіх нечаканая: ён узяўся за распрацоўку культавых аб'ектаў.

— Неяк даведаўся, што ў Пінску збіраюцца пабудаваць кафедральны сабор. Зрабіў свой праект і адправіў на суд самому мітрапаліту Філарэту. Мая распрацоўка спадабалася ўладыку.

— Я не хацеў бы здзіўляцца вашаму выбару. І усё-такі: чаму культавыя ўстановы вы, Мікалай Міхайлавіч, выбралі? Палічылі, што «царкоўнікі» людзі багатыя, што не пашкадуюць грошай на будаўніцтва любога храма, быў бы цікавы праект яго?

— Наконт грошай. Рабіце высновы самі: нашы царкоўнікі рады былі б звярнуцца праз газету «Голас Радзімы» за фінансавай дапамогай (адрас разліковага рахунку знаходзіцца ў рэдакцыі.—**Я. Т.**), бо на ўсё і ў іх сродкаў не хопіць.

І сапраўды, у адрозненне ад свецкіх, так бы мовіць, распрацовак, з культавымі працаваць цікавей, больш творчасці. Але і тут ёсць свае рамкі. Фантазія мая, архітэктара, павінна ўвязвацца з многімі аспектамі. Пасля семнаццатага года на тэрыторыі Беларусі цэрквы, храмы, саборы былі ў большасці разбураны. І вось перад тым, як прыступаць да праекта, чарцяжоў, макетаў будучай пабудовы, трэба перагартаць не адзін архіўны дакумент, даведачную літаратуру, добра пазнаёміцца з фатаграфіямі, чарцяжамі культавых устаноў мінулых гадоў... Не палічыце толькі, што я хачу займацца нейкай рэстаўрацыяй. Проста тут павінна захоўвацца традыцыя — шматвяковая традыцыя беларускага народа. У гэтай архітэктуры павінны вытрымлівацца наш айчынны стыль, духоўнасць, абраднасць і нават прыналежнасць менавіта да той канкрэтнай мясцовасці, дзе будзе ўзведзены храм: у Полацку — адзін, а ў Мінску другі, кожны мае індывідуальнае, сваё.

Ад Мікалая Дзятко даведаўся, якія культавыя ўстановы будуць пабудаваны на тэрыторыі Беларусі. Асноўныя з іх тры храмы ў Мінску — па вуліцах Прытыцкага, Каліноўскага і ў мікрараёне Чыжоўка. І да ўсіх іх мае дачыненне Мікалай Міхайлавіч. «Хачу,— кажа ён,— каб у гэтых храмах чалавек адухаўляўся, адпачываў душой і целам, набіраўся жыццёвай мудрасці, вучыўся дабру. І ў гэтым далёка не апошнюю ролю адыграе архітэктурная распрацоўка культавага збудавання».

Хочацца верыць, што Мікалай Міхайлавіч пакіне на гэтай зямлі яшчэ не адзін свой выдатны «аўтограф». Архітэктар знаходзіцца ў самым росквіце творчых сіл. У тым стане, калі задуманае лёгка ператвараецца ў рэальнасць. Пажадаем жа яму ўсяго найлепшага.

*Яўген* **ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае макет кафедральнага сабора ў гонар святога Феадора Цірана, заступніка горада Пінска; школа на вуліцы Філімонава ў Мінску, праект якой быў распрацаваны архітэктарам Мікалаем Дзятко.**

**Фота В. СТАВЕРА і з архіва архітэктара Мікалая Дзятко.**



# НОВАЕ ВЫДАННЕ САЮЗА ПАЛЯКАЎ БЕЛАРУСІ

Выйшаў з друку першы нумар часопіса «Магазын польскі» — другое, поруч з газетй «Глос з-над Немна», польскамоўнае выданне Саюза палякаў Беларусі.

Польская прэса на Беларусі мае шматвяковыя традыцыі. Газеты на польскай мове пачалі выдавацца тут па меншай меры з XVIII стагоддзя. Да 1940 года польскія газеты легальна выходзілі ў Савецкай Беларусі. Больш таго, нават у гады Вялікай Айчыннай вайны, побач з беларускімі і рускамоўнымі антыгітлераўскімі, выходзілі падпольныя і польскія антыгітлераўскія выданні (гэта тэма да нядаўняга часу была закрытай для журналістаў).

Аднак пасля вайны ў гады бяздумнага разгулу аднаго з горшых на зямлі таталітарных рэжымаў, які ў ахвяру ідэалагічным міфам (накшталт збліжэння і зліцця нацый і народнасцей СССР) прыносіў лёсы дзесяткаў малых народнасцей і нацый, існаванне польскага друку ў Беларусі было непатрэбным і недарэчным. Адзначалася або поўнае «зліццё» палякаў з беларусамі, або іх называлі «акаталічанымі беларусамі», якіх для вырашэння нацыянальнай праблемы неабходна проста зрабіць атэістамі.

Дэмакратызацыя грамадскага жыцця канца 80-х — пачатку 90-х гадоў, станаўленне суверэннай беларускай дзяржавы зноў выклікалі да жыцця з'яўленне польскага друку ў Рэспубліцы Беларусь. У 1989 годзе ў Гродне пачала выходзіць польскамоўная газета «Глос з-над Немна», а потым з'явіўся на свет і квартальнік «Магазын польскі» — цудоўна ілюстраваны, выдадзены на добрай паперы польскамоўны часопіс.

Змест яго лагічна прадуманы, глыбока раскрывае розныя бакі як мінулага жыцця польскай народнасці на беларускай зямлі, так і сучаснага. Часопіс мае такія раздзелы, як «Нашы слаўныя землякі», «Вера і чалавек», «З гісторыі польскага друку ў Беларусі», «Скарбніца польскай літаратуры», «Легенды нашай зямлі», «З гісторыі гарадоў і вёсак», «Выдатныя вучоныя нашай зямлі», «Нашы касцёлы», «Народныя традыцыі» і інш. У кожным з гэтых раздзелаў прадстаўлены змястоўныя матэрыялы, цікавыя для чытача любой нацыянальнасці. Напрыклад, у раздзеле «Нашы слаўныя землякі» змешчаны нарыс пра Тадэвуша Касцюшку, які нарадзіўся ў вёсцы Марачоўшчына Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці і які адыграў выдатную ролю ў гісторыі абодвух народаў — польскага і беларускага. Не без падставы нацыянальны герой Беларусі Кастусь Каліноўскі (пра гэта, праўда, не гаворыцца ў артыкуле) для пашырэння сацыяльнай базы паўстання 1863 года звяртаўся да вопыту паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Касцюшкі.

Цікавы нарыс Аляксандра Сняжко «Казімеж Нарбут», прысвечаны жыццю і дзейнасці аўтара першага падручніка па логіцы на польскай мове Казімера Нарбута, ураджэнца Лідчыны, які быў блізкім сваяком Тэадора Нарбута, выдатнага гісторыка Літвы.

Жыццёвы шлях архіепіскапа — мітрапаліта Магілёўскага Казімежа Свёнтака апісваецца Збігневам Сухарам у нарысе «Палескі рапсод». Цікава адзначыць, што архіепіскап Магілёўскі дзесяць год правёў у сталінскіх лагерах (1944—1954). На старонках часопіса шмат выдатнай, падабранай з вялікім эстэтычным густам польскай паэзіі. Ёсць таксама хроніка сучаснага жыцця Саюза палякаў Беларусі. Вядома, побач з удалымі, у часопісе маюцца і матэрыялы, якія, як нам здаецца, не кожнаму чытачу прыйдуцца даспадобы. Напрыклад, гумарыстычны фельетон «Трагедыя Сашкі «ўдарніка», які апісвае падзеі, што адбываліся нібыта ў грамадскім жыцці Мінска ў канцы 20-х гадоў.

У цэлым жа гэта цудоўнае выданне пераканаўча паказвае, што ў беларусаў і палякаў, якія шмат вякоў жылі на адной зямлі, вельмі шмат агульнага і ў гісторыі, і ў культуры, і ў народных традыцыях, і ў мове, і ў іншых галінах матэрыяльнага і духоўнага жыцця.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**




## ПРЫМІРЭННЕ



— Мы прыехалі да вас, каб лепш даведацца пра ваша сённяшняе жыццё, якое праходзіць пад знакам вялікіх палітычных і эканамічных пераўтварэнняў, а таксама пад знакам чарнобыльскай трагедыі, — заявіў відны грамадскі дзеяч ЗША Дональд Нід у час сустрэчы ў Беларускім камітэце абароны міру. Разам з Барбарай Скінер ён узначаліў групу амерыканцаў з дваццаці чалавек (у тым ліку сем свяшчэннікаў), паездка якіх была арганізавана Цэнтрам Дж. Конары па прымірэнню паміж ЗША і краінамі былога СССР, прэсвітэрыянскай царквою краіны і Саветам па абмену грамадзянамі. У час знаходжання ў Мінску ў гасцей з Амерыкі, як тыя чакалі, было шмат сустрэч. Яны прысутнічалі на службе ў кафедральным саборы, пабывалі ў Мінскім епархіяльным упраўленні, зрабілі паездку ў Хатынь, пазнаёміліся з беларускім народным мастацтвам.

— Вярнуўшыся дадому, — сказаў Д. Нід, — мы раскажам суайчыннікам пра тое, што тут убачылі. Мы хочам, каб у Амерыцы больш ведалі аб працалюбстве і мужнасці беларускага народа. У гэтым была мэта нашай паездкі.

**Э. ГАРЫН.**

**НА ЗДЫМКУ:** у час прыёму ў Беларускім камітэце абароны міру. Выступае Дональд Нід.

**Фота В. СТАВЕРА.**

# ФРАНЦУЗСКАЯ НАВАЛА І ПАСЛЯ ЯЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**экономно, логично.** О наступлении главных сил наполеоновской армии рассказать необходимо—без того нельзя понять ход событий, а военные действия завоевателей в Прибалтике и на Украине можно не освещать». Вось так вучыць доктар педагагічных навук Н. Дайры настаўнікаў-гісторыкаў у сваёй брашуры «Главное усвоить на уроке» («Знание», Москва, 1984). Аб Беларусі, дзе орды Напалеона прайшлі, усё змятаючы і знішчаючы, як саранча, ён наогул нічога не гаворыць. А як мы ведаем з гістарычных крыніц, першая перамога над напалеонаўцамі была пад Кобрынам 15 чэрвеня 1812 года. Але ў брашуры пра гэта ні слова, бо яе дамогся не ліслівы царадворац і таленавіты военачальнік М. Кутузаў. Аднак жа падыдзем да тэмы. У ноч на 12(24) чэрвеня 1812 года без аб'яўлення вайны «Вялікая армія» (647 158 чалавек і 1, 372 гарматы) пад кіраўніцтвам Напалеона Банапарта (пераадзетага ў польскую вайсковую форму) перайшла цераз межавую раку Нёман у раёне Коўна (Каўнаса). Гэты момант апісаў Ф. Цютчаў:

**Победно шли его полки.**
**Знамена весело шумели,**
**На солнце искрились штыки,**
**Мосты под пушками гремели—**
**И с высоты, как некий бог,**
**Казалось, он парил над ними**
**И двигал всем и все стерег**
**Очами чудными своими...**

А неўзабаве яго шматлікія войскі ступілі на тэрыторыю сучаснай Беларусі. Няхай прабачыць мне шаноўны чытач, што я не буду весці гаворку аб гераічнай рускай арміі, такіх відных яе палкаводцах, як Барклай дэ Толі, Баграціён, Міларадавіч, Платаў і іншых. Мае пакуты аб маёй роднай зямлі. Яна была кінута на ганьбаванне французам, палякам, немцам, італьянцам, аўстрыйцам, іспанцам... І гэта замоўчвае афіцыёзная літаратура і тых, «застойных», і нашых часоў.

І запалалі беларускія гарады і мястэчкі, вёскі і засценкі. Рабункі, марадзёрства, насілле, разбой, забойствы, крадзяжы —вось што ўяўляла сабой вайна французаў.

Расійскі чыноўнік В. Дубровін па свежых слядах пісаў аб палаючых сёлах і прадмесцях гарадоў, вуліцах, усыпаных паранелымі і мерцвякамі.

Як успрыняў беларускі народ нашэсце французаў? Адразу адкажу—неадназначна. Вярхі (у сваёй большасці), асабліва польская шляхта, у тым ліку і апалячаная беларуская, пайшлі на змову і ўслужэнне напалеонаўцам. На згоду пайшлі і беларускія жыды (так у той час звалі яўрэяў). Народныя ж нізы і частка патрыятычнай беларускай шляхты паўсталі на абарону сваёй радзімы ад чужаземцаў. Вось, да прыкладу, якім было становішча на землях Клецка: «Мясцовае насельніцтва аказвала рускім войскам усялякую падтрымку: дапамагала на пераправах праз рэкі, забяспечвала харчаваннем і фуражом, выходжвала параненых... У гэты цяжкі для нашага народа час мясцовая шляхта і буйныя памешчыкі здрадзілі яму. Заваражаныя лёгкімі перамогамі Напалеона, жадаючы заслужыць у імператара асобыя прывілеі, яны перайшлі на бок акупантаў. Са шляхты навакольных засценкаў у раёне Нясвіжа і Клецка быў сфарміраваны конны полк на чале з князем Дамінікам Радзівілам. Гэты полк у складзе атрадаў князя Юзафа Панятоўскага рухаўся ў першых шарэнгах войск Напалеона на Маскву». (Чорны Д. М. Клецк. Мн.: Беларусь, 1991).

Мясцовыя польскія паны-здраднікі, у тым ліку і такі відны беларуска-літоўскі магнат, як Міхаіл Радзівіл (яму надалі званне генерала брыгады польскай арміі), слаліся траўкай перад захопнікамі, бо за імі пакінулі ўсе прывілеі і маёнткі. За здраду яны атрымлівалі назначэнні ў французаў, якія стварылі для сваёй выгоды і зручнасці і на замілаванне здраднікам Віленскую, Гродзенскую і Мінскую губерні, Беластоцкую вобласць. Яны падпарадкоўваліся Камісіі часовага кіраўніцтва Вялікага княства Літоўскага, якая вельмі паспяхова рабавала беларускі народ. Дастаткова прывесці такія звесткі з кнігі І. Крэня і Я. Мараша «Шчучын», 1989 года выдання: «8 жніўня 1812 года Вярхоўнае камандаванне французскіх акупацыйных улад загадала арганізаваць крамы,якія павінны былі забяспечваць французскую армію. Адна з іх—на 10 тысяч порцый—была створана ў Шчучыне. Для папаўнення яе запасаў трэба было паставіць 40 гарнцаў жыта, 40 аўса, 2 гароху, 80 фунтаў сена і столькі ж саломы».

13 жніўня захопнікі аддалі новы загад, у якім у краме Шчучына яшчэ трэба было мець «у гатоўнасці гарэлку і жывёлу».

На чале губерняў Віцебскай і Магілёўскай сталі адміністрацыйныя камісіі «польскага праўлення», укамплектаваныя польскімі памешчыкамі.

Тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага была падзелена на дэпартаменты і падпрэфектуры, якія ўзначалілі французскія чыноўнікі і інтэнданты разам з польскімі памешчыкамі.

У той час, калі вярхі старанна адраблялі свае срэбранікі ў захопнікаў, просты беларускі люд змагаўся, што вымушала Напалеона трымаць значныя сілы ў тыле. Так, нават напярэдадні славутай Барадзінскай бітвы Банапарт вымушаны быў накіраваць 10 тысяч жаўнераў на падмогу 12-тысячнаму гарнізону ў горадзе Віцебску.

ПАЛЕМІКА

# «СКУЛЬ, ЯКОГА МЫ РОДУ?»

## НЕКАЛЬКІ ДУМАК ПРА ПАХОДЖАННЕ БЕЛАРУСАЎ

РАШЭННЕ напісаць гэты матэрыял узнікла ў мяне пасля апублікавання ў «Голасе Радзімы» (№№ 35—39 за 1991 год) артыкула М. Піліпенкі «Як спытаюцца нас... (гістарычныя нататкі пра ўзнікненне Беларусі)», які з'яўляецца, скажам так, «канспектам» кнігі гэтага вучонага «Узнікненне Беларусі. Новая канцэпцыя» (Мн., Беларусь, 1991). Я не збіраюся пісаць рэцэнзію і ўвогуле аспрэчваць меркаванні, выказаныя асабіста М. Піліпенкам. Я хачу толькі тэзісна выказацца, наколькі гэта магчыма на старонках газеты, наконт стэрэатыпаў, якія склаліся ўвогуле ў гістарычнай навуцы і якія ў пэўнай ступені перашкаджаюць бачыць праблему этнагенезу беларусаў у гістарычнай рэтраспектыве.

1. Традыцыйна гісторыкі падзяляюць працэс нараджэння народа на этапы, якія называюцца «фарміраваннем народнасці» і «фарміраваннем нацыі». Гісторыкаў паўтараюць мовазнаўцы, якія таксама падзяляюць галоўную прыкмету народа — яго мову на «мову народнасці» і «мову нацыі». Між тым, ніводзін грамадазнавец ці лінгвіст яшчэ пераканаўча не растлумачыў розніцу паміж гэтымі шаблоннымі паняццямі. А ўсё таму, што розніцы ніякай няма. Фарміраванне народа — гэта адзіны працэс, які мае свой пачатковы этап, на якім адбываецца інтэграцыя тэрытарыяльных дыялектаў, выпрацоўваюцца агульныя для ўсіх прадстаўнікоў данага грамадства нормы, якія паступова пачынаюць успрымацца як абавязковыя і асноўныя ў канкурэнцыі з нормамі шэрагу дыялектаў і замацоўвацца дзякуючы кансалідуючай ролі і распаўсюджванню літаратурнай мовы, з'яўленне якой знамянуе наступленне завяршальнага этапу фарміравання мовы і народа.

2. Узнікненне беларусаў традыцыйна звязваюць з XIV, часам, як у М. Піліпенкі, з XV—XVI стагоддзямі. Лічыцца, што ў XIII—XIV стагоддзях Старажытнаруская дзяржава распалася, перастаў існаваць і старажытнарускі этнас (усходнеславянская народнасць), замест жа апошняга з'явіліся тры самастойныя народы — рускія, беларусы, украінцы. Пры такім падыходзе да сутнасці праблемы палітычная гісторыя прамалінейна накладваецца на гісторыю этнічную. Але адкуль усё ж з'явіліся тады—XIV—XV стагоддзі? Іх ніхто не выдумваў. Менавіта з гэтым часам этнографы і мовазнаўцы звязваюць з'яўленне найбольш выразных рысаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў і прыкмет уласна беларускай мовы, а не якойсьці заходняй разнавіднасці старажытнарускай мовы. Аднак ці не азначае ўсё гэта, што, па-першае, папярэднія часы не пакінулі дастатковай колькасці фактаў і матэрыялаў, якія дазволілі б рабіць іншыя вывады, а па-другое, што «найбольш выразныя рысы і прыкметы» — гэта завяршальны этап нараджэння народа і яго мовы? Яшчэ Максім Багдановіч у 1915 годзе слушна заўважыў: выразна вызначаным, самастойным народам беларусы з'явіліся ўжо ў XII—XIII стагоддзях (гл. яго нарыс «Беларусы»). Не выпадкова, на рубяжы XIII—XIV стагоддзяў беларусы пачалі ствараць сваю першую дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Стварэнне дзяржавы знаменавала з'яўленне беларускага народа, народнасці, нацыі (гэтыя тэрміны мы ўжываем тут як сінонімы). XV—XVI стагоддзі пры такой інтэрпрэтацыі праблемы этнагенезу беларусаў мы разглядаем як этап паступовага росквіту беларускага этнасу і беларускай мовы (своеасаблівы «залаты век»). У гэты перыяд фарміруецца беларуская літаратурная мова, якая стала афіцыйнай, дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве Літоўскім.

3. На рубяжы XIII—XIV стагоддзяў сфарміраваліся таксама рускі і ўкраінскі этнасы, у кожнага з якіх быў свой палітычны цэнтр— адпаведна Маскоўскае і Галіцка-Валынскае княствы. Дарэчы, XIII—XIV, а потым і XV—XVI стагоддзі характарызаваліся ўпартай, часам кровапралітнай і жорсткай барацьбой спачатку Вялікага княства Літоўскага з Галіцка-Валынскай Руссю (у XIV стагоддзі яна называлася Малой Руссю), а ў XV—XVI стагоддзях — з Масковіяй. Гэта была не проста барацьба за землі і выгоды, гэта была палітычная барацьба за прыярытэт, лідэрства, уплыў.

У гады княжэння Гедыміна— 1315—1340, а потым і Альгерда — 1341—1377 — у склад Вялікага княства Літоўскага ўвайшлі Валынь, Падолія, Кіеўскае княства, Северская і Чарнігаўская землі (мы маем на ўвазе, перш за ўсё, тэрыторыі, якія сёння з'яўляюцца ўкраінскімі). Дык вось, калі б у гэты час, гэта значыць у сярэдзіне і другой палове XIV стагоддзя, не існавалі ўжо самастойныя беларускі і ўкраінскі этнасы, беларуская і ўкраінская мовы, то ў межах Вялікага княства мяркуемы распад старажытнарускай супольнасці і старажытнарускай мовы пайшоў бы ў напрамку паступовага стварэння агульных, нават адзіных рысаў і прыкмет пэўнага «паўднёвазаходнерускага» этнасу і «паўднёвазаходнерускай» мовы. Такога не сталася, і факт гэты надзвычай красамоўны!

4. Такім чынам, «правобраз» беларусаў пачаў складацца задаўга да рубяжа XIII—XIV стагоддзяў. Да якіх жа часавых глыбінь узыходзіць пачатак яго складання? Думаецца, наспеў час адмовіцца ад яшчэ аднаго стэрэатыпа ў навуковых даследаваннях, згодна з якім Старажытная Русь IX—XIII стагоддзяў безумоўна разглядаецца як адзіная дзяржава (нават адносна адзіная), а ў межах яе прызнаецца існаванне зноў-такі безумоўна адзінай старажытнарускай народнасці. Усё было, хутчэй, наадварот: тая Старажытная Русь, што паўстае перад намі ў летапісах, не была цэнтралізаванай дзяржавай. У яе межах пераважалі не працэсы этнічнай і моўнай інтэграцыі, а якраз этнамоўнай дыферэнцыяцыі. Добра вядомыя летапісныя падзеі, ад княжэння Алега ў Кіеве ў 882 годзе і да нашэсця манголаў,—гэта палітычная хроніка завяршальнага этапу існавання ўсходнеславянскай супольнасці, гэта апошні этап усходнеславянскага адзінства.

5. Пачатковы этап гэтага адзінства, да IX стагоддзя, у летапісах амаль не адлюстраваны. У існаванні ж агульнаўсходнеславянскага адзінства сумнявацца немагчыма. Той, хто думае інакш, прытрымліваецца загадзя сфармуляванай

(Заканчэнне на 7-й стар.).

---

Гэта дае магчымасць зразумець галоўнага акупанта, калі ён пісаў у Смаленск: «Пацвярдзіце загад не адпраўляць у Маскву ні аднаго транспарта інакш, як пад прыкрыццём 1 500 чалавек»; «напішыце генералам, што колькасць людзей, забіраемых у палон непрыяцелем, даходзіць штодзённа да некалькіх соцень».

Першыя беларускія атрады ўзніклі яшчэ ў ліпені 1812 года. Асабліва вызначыўся сярод іх атрад з вёскі Трасцяны з Ігуменшчыны (цяпер Чэрвеньскі раён). Партызаны арганізоўвалі напады на французаў, разам з жыхарамі хавалі ў лясах і балотах ад захопнікаў харч, адзенне, фураж, маёмасць, каштоўнасці. Як пішацца ў падручніках па гісторыі, паводле слоў сучаснікаў, у Барысаўскім павеце сяляне нападалі на групы французскіх салдат, «знішчалі іх... тапілі ў рэках». Рускім войскам дапамагалі ўсім: аддавалі коней і падводы, ежу і фураж, збіралі і дастаўлялі звесткі пра варожую армію.

Генерал Шарпанцье пагражаў жыхарам Віцебска, што калі праз 2 гадзіны не будзе пастаўлена на бойню ад горада жывёла, горад падвергнецца ваеннай экзекуцыі.

Войскі Жэрома Банапарта разграбілі Гродна, Шчучын і іншыя беларускія гарады і вёскі. Луі Даву ў Магілёве: «Панове, імператар патрабуе ад вас трох рэчаў: хлеба, хлеба, хлеба».

А вось як пра Даву пішуць аўтары кнігі «Березина, год 1812-й» (Минск, «Полымя», 1991): «...человек, отличающийся деспотическим нравом, но один из способных маршалов французской империи, превосходный стратег и тактик. Проявил себя под Салтановкой, Смоленском, Бородино». Прачытаеш такое, і стогнам пачынае заходзіцца і сэрца, і душа, але што да таго аўтарам кнігі Г. Мазінгу і Л. Ерусалімчык, што кат Даву душыў і абіраў беларускі народ, ён жа «адзін з самых здольных маршалаў...»

Усе захопнікі патрабавалі ад беларусаў даху, хлеба, мяса, грошай, каштоўнасцей, падпарадкавання і працы на іх. Але ў тым і веліч беларускага народа, што, прызвычаены да ўсяго, ён не цярпеў насілля чужаземцаў над сабой і гарэла зямля пад нагамі французаў і іх саюзнікаў.

І тут нельга не сказаць пра вядомага польскага генерала Яна Дамброўскага, які паспяхова абіраў беларускае насельніцтва для свайго і французскага войска, нішчыў сялянскі люд. Але потым яго і афіцыёзная савецкая гісторыя, і асабліва польская, узвялі ў лік выдатных людзей. Імя яго французы высеклі на Трыумфальнай арцы ў Парыжы. У беларускай гісторыі ўжо была такая з'ява, як з грабежніка і рабаўніка, забойцы, украінскага казака Севярына Налівайкі зрабілі нацыянальнага беларускага героя.

Асабліва ў апошні час «алілую» Напалеону Банапарту любяць спяваць нашы вучоныя. Леанід Лыч у артыкуле «Беларуская галгофа» так піша: «Рэальная надзея вярнуць штосьці з былой дзяржаўнасці ўзнікла ў беларусаў (!—М. М.) з нападам у 1812 годзе на Расію французскага імператара Напалеона Банапарта. Гэта быў не толькі геніяльны (!!—М. М.) палкаводзец, але і вялікі (!!! — М. М.) палітык, які вельмі добра разумеў (я і не ведаю, колькі клічнікаў тут паставіць. — М. М.), што значыць для любога народа дзяржаўная незалежнасць».

Вялікае княства Літоўскае — гэта была выдатная абяцанка-цацанка ў хітрага французскага імператара, каб дурыць тых, хто гэтага жадаў. Не для таго ён паланіў краіны і народы, каб потым даць ім свабоду і роўнасць. І смешна чытаць тыя ці іншыя меркаванні вучоных, якія імкнуцца апраўдаць здрадніцтва польскіх паноў і іх радавітых беларусаў, якія нішчылі свае землі і свой народ, адбіралі ў гараджан і сялян апошняе і аддавалі ўсё французам і тым хацелі дагадзіць ім.

І беларускі народ паўстаў супраць чужаземцаў. 22 чалавекі з славутага партызанскага атрада з вёскі Жарцы (пад Полацкам) пад кіраўніцтвам Максіма Маркава за доблесць, адвагу і гераізм узнагародзілі крыжамі.

Жыхар горада Полацка Цімафееў — гэта легендарная асоба — быў захоплены французамі, але ўцёк ад іх, каб зноў помсціць ворагу, ён быў узнагароджаны сярэбраным медалём.

Побач з мужчынамі змагаліся жанчыны і падлеткі. За асаблівую адвагу ў баях з французамі быў уручаны медаль прыгоннай сялянцы Фядоры Міронавай з вёскі Пагуршчына. Гісторыя захавала подзвігі Ф. Міронавай у дакументах: «Гасудар імператар ва ўзнагароджанне подзвігаў сялянкі Віцебскай губерні памешчыка Глазкі Фядоры Міронавай, якая ў незабыўную вайну 1812 года, будучы неаднаразова пасланая ў Полацк для разведвання становішча непрыяцеляў, зусім не баялася ахвяраваць самім жыццём, але, кіруючыся адзінай дбайнасцю і любоўю да Бацькаўшчыны, ішла на ўсе небяспекі, якія пагражалі ёй смерцю, і прыносіла адтуль дакладныя і надзвычай карысныя для корпуса генерала ад кавалерыі Вітгенштэйна звесткі, усеміласцівейша падараваў ёй пяцьсот рублёў грошай і сярэбраны на аненскай стужцы медаль з надпісам «За карыснае», які дазваляецца ёй насіць. Ваенны міністр Канаўніцын. Лютага 4 дня 1816 года».

Так што першыя бai ў Расіі Напалеон Банапарт прайграў на палях Беларусі.

Тут, на Бярэзіне, ён і закончыў свой няслаўны шлях. Толькі ля вёскі Студзёнкі ён страціў палоннымі больш 30 тысяч чалавек. А сам уцёк у горад Смаргонь, дзе 23 кастрычніка (5 лістапада) перадаў кіраўніцтва войскамі Мюрату.

Пра Бярэзіну трэба сказаць больш. Бяздарнасць кутузаўскіх генералаў здзівіла ўвесь свет. Напалеон уцёк «пад самым носам у праціўніка» (К. Клаузевіц). І я поўнасцю згодны з вывадам аб выніках Бярэзінскай аперацыі, якую зрабіў адзін з нямецкіх гісторыкаў таго часу:

«Бярэзіна! Ракавое імя, ракавое месца, дзе маглі закончыцца, але не закончыліся, а прадоўжыліся яшчэ на тры гады бедствы чалавецтва».

Бягляк з Смаргоні накіроўваўся ў Ашмяны, а перад яго позіркам паўстала змучаная і спустошаная зямля. Насельніцтва Беларусі паменшылася ў два, а ў некаторых раёнах у тры разы. Параўнаем гітлераўскае нашэсце, дзе быў знішчаны кожны чацвёрты жыхар рэспублікі. Падкрэслю, французы былі паўгода, немцы — тры гады. Пасяўныя плошчы паменшыліся на 50 працэнтаў, засталося менш паловы хатняй жывёлы. У Віцебскай губерні зусім не стала коней. Я ўжо не пішу аб традыцыйнай беларускай гаспадарцы, якая была ў суцэльнай разрусе, на месцы гарадоў і вёсак — руіны і папялішчы. Тут дастаткова прывесці такі факт: французы абакралі славутую Слуцкую мануфактуру, дзе рабілі вядомыя на ўвесь свет паясы з золата, срэбра і шоўку.

Чалавечая памяць змывае шмат. Перада мной ляжыць нядаўна выпушчаная брашура «Туристские гостиницы и базы Белоруссии». Дык вось у гэтым даведніку не адзначана ніводнага месца, звязанага з Айчыннай вайной 1812 года, не дадзены ні адзін маршрут.

Айчынная вайна была пераможна закончана, і трэба было чакаць, што кожны атрымае паводле сваіх учынкаў. Хто змагаўся супраць захопнікаў, павінны былі атрымаць царскія міласці. Хто здрадзіў Айчыне, павінен быў пакугаваць, быць асуджаны. Але ўжо 12 снежня Аляксандр І выдаў маніфест, у якім дараваў здраду панам і шляхце, а «сяляне, верны нам народ, няхай атрымае ўзнагароду сваю ад бога».

Князі, памешчыкі і падпанкі, якія аддана служылі французам, адразу зразумелі, што ім нічога не пагражае, азвярэлі і пачалі траўлю і насілле над героямі Айчыннай вайны.

Пугі, кіі, бізуны, астрогі, катарга, адданне ў салдаты, Сібір, Сахалін, пакаранне смерцю — вось чым абярнуліся для сапраўдных абаронцаў іх самаадданасць і патрыятызм. Аб гэтым, у прыватнасці, апавядае шырокавядомая паэма Я. Баршчэўскага «Бунт хлопаў».

Але асаблівая трагедыя выпала на долю сялян-партызан з вёскі Жарцы, з якой 22 чалавекі былі ўзнагароджаны крыжамі за баі з французамі. Свае ўзнагароды яны прымацавалі на шапкі. І як толькі гэта ўбачыў памешчык Жаброўскі, ён прыйшоў у шалёнства.

За тое, што яго прыгонныя насілі ўзнагароды, якімі былі адзначаны іх заслугі перад Айчынай, ён загадаў прывесці ўсіх на стайню, дзе даў загад распрануцца дагала і пачаў з асаблівай лютасцю іх збіваць пугай. Пры гэтым ён крычаў: «Вось вам свабода, вось вам крыж».

Жаброўскія і іншыя ведалі, што рабілі. За імі стаялі цар, войска, царква. Так, гісторыя захавала і гэты прыклад, які не ўпрыгожвае духоўны сан. Па асабістаму хадайніцтву мінскага каталіцкага епіскапа мінскі губернатар загадаў аддаць пад суд сялян маёнтка Ратучыцы Барысаўскага павета за забойства памешчыка Шэміста, які з асаблівай стараннасцю і дбайнасцю працаваў на напалеонаўцаў, за што і быў забіты.

У суд было прыведзена 15 чалавек. Сэрца заміраe ад такой дзікай несправядлівасці і подласці ў адносінах да сапраўдных патрыётаў. Усе 15 былі асуджаны. З іх 13 мужчын і 2 жанчыны.

І таму хваляванні праз год пасля нашэсця французаў пачалі ахопліваць шырокія слаі беларускага насельніцтва. Чыноўнік, пасланы сюды для разгляду становішча, пісаў, што «па ўсіх вёсках... пачалі з'яўляцца новыя шкодныя задумы,.. сяляне напагатове да ўсеагульнага абурэння. Тут кажуць, што робяць нажы». І царызм адрэагаваў неадкладна, накіраваў у гарачыя раёны войскі. Армія і прадухіліла народныя паўстанні на Беларусі пасля нашэсця французаў.

Разарваная, змучаная зямля, ашуканы народ Беларусі вытрымалі і гэтыя цяжкія выпрабаванні, і пакуты. Але хто сёння пра іх помніць, як і пра пакуты ў час вайны 1812 года.

Народ наш помніць гітлераўскія злачынствы, але злачынствы Напалеона з цягам часу набылі арэол гераічных учынкаў. Засталося толькі ружы ад беларусаў ускласці на яго магілу... А прайшло ж усяго 180 год дык што будзе праз 280!

Міхаіл МАЛІНОЎСКІ.



# ПРЭМ'ЕРА ТВОРА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Побач са скульптурай Ефрасінні Полацкай на подыумах размясціліся і гарманічна дапаўнялі экспазіцыю дэкаратыўныя падсвечнікі выдатнай беларускай мастачкі Тамары Васюк. Зробленыя ў выглядзе двух купалаў храмаў розных памераў, яны арганічна ўводзілі ў вобразны лад архітэктуры мінуўшчыны, самі ж падсвечнікі з невялікімі залатымі ўстаўкамі-абразкамі нібыта данослі да нас дух той эпохі, калі жылі і працавалі нашы асветнікі.

Адметнасцю гэтай выставы было тое, што ўсе творы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва рыхтаваліся спецыяльна для экспазіцыі. Упершыню глядач пазнаёміўся з нацюрмортамі Уладзіміра Хадаровіча «Мёд» і «Нацюрморт з абразом», якія ў экспазіцыі займалі галоўнае месца і нібы сустракалі гледача. На процілеглым баку, у невялікай рэкрэацыі, размясціліся скульптурныя кампазіцыі выпускніка скульптурнага аддзялення Беларускай акадэміі мастацтваў Вадзіма Вераб'ёва. Зробленая ў метале і дрэве, а некаторыя вырабы спалучалі абодва матэрыялы, дробная пластыка гэтага таленавітага скульптара на тэму нацыянальнага Адраджэння («Сцяг», «Стары герб», «Пахмурны месяц», «Абаронца зямлі»), у суседстве з міні-габеленамі Алены Атраховіч і вытанчанай графікай Анатоля Александровіча стварылі сапраўдны нацыянальны асяродак, надалі адметнасць камернай зале.



Нізкай невялікіх вясковых нацюрмортаў (трыпціх) і «Пейзажам з арэлямі» вядомы мастак Уладзімір Кожух вяртаецца ў творчасці да вечнага і існага на зямлі — да сваіх каранёў. Ён не гоніцца за кан'юнктурай, а застаецца верным свайму мастакоўскаму выбару, клапоціцца пра духоўнасць нацыі, яе сапраўднае Адраджэнне. Гэта тычыцца і твораў Міколы Ісаёнка — краявіды «Пачатак мая», «Май», Валерыя Шкарубы «Цішыня», «Змярканне», Івана Рэя «Пейзаж».

Побач з вядомымі і сталымі майстрамі экспанаваліся творы маладых мастакоў Ф. Драгуна, А. Раўскага, В. Песіна, Я. Вахрамеева, І. Жука, якім уласцівы індывідуальны мастакоўскі падыход да з'яў жыцця і мастацкай формы. Прыемна адзначыць, што дзейнасць галерэі «Медзя» будуецца не на чыста камерцыйнай аснове, экспанаванні твораў вядомых, найбольш купляемых аўтараў. У адрозненне ад іншых галерэй менавіта тут робяцца захады, каб адкрыць новае імя, падтрымаць пачаткоўца. Не так даўно, напрыклад, ладзілася персанальная выстава маладога мастака Івана Марцінчыка.

Галоўным крытэрыем тут з'яўляецца мастацкая вартасць твора, прафесіяналізм незалежна ад мастацкага ўхілу аўтара. Нават і на выставе «Прэм'ера твора» побач з рэалістычнымі працамі суседнічалі палотны самых розных мастацкіх напрамкаў, што між іншым толькі надавала галерэі адметнасць і цікавасць да яе як прафесіяналаў, так і шматлікіх гледачоў.

Без перабольшання можна адзначыць, што на галерэі «Медзя» кожны раз адбываецца сапраўднае свята мастакоў і наведвальнікаў, дзе апошнія могуць набыць твор мастацтва. На гэты раз на адкрыцці ўсіх прысутных прыемна здзівіла суседства твораў мастацтва з дэкаратыўнымі кампазіцыямі з жывых кветак. Трэба адзначыць, што гэтае свята разам з беларускімі мастакамі і шматлікімі наведвальнікамі адзначылі і прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу замежных краін, акрэдытаваныя ў Мінску.

**Уладзімір СІВУХА.**

**НА ЗДЫМКАХ: у галерэі «Медзя»; работы з выставы.**



*СКРОМНАЕ ЗАЧАРАВАННЕ БУРЖУАЗІІ*

# ЭКЗАМЕНЫ НА ВЫЖЫВАЛЬНАСЦЬ

Апошнія дні мая — пара іспытаў, заключных і адказных акордаў навучальнага года. Гучалі яны і ў школах агульнага музычнага навучання, якія разам з мастацкімі і харэаграфічнымі ўтвараюць цэлую сістэму навучання з 681-й адзінкі. (Яна падпарадкоўваецца Міністэрству культуры і існуе асобна ад сярэдніх агульнаадукацыйных школ, што належаць да Міністэрства народнай адукацыі). Гэтая сістэма заклікана яшчэ з часоў пасляваенных вырашаць на працягу сямі гадоў двухадзіную задачу: ажыццяўляць эстэтычнае выхаванне дзіцяці і даваць яму, суадносна з яго здольнасцямі, першапачатковыя веды для набыцця прафесіі музыканта.

Да тыпу такіх школ адносіцца і музычная школа № 2 імя М. Аладава, куды я завітаў на выпускныя экзамены ў падрыхтоўчым, ці «нулявым» класе. Школа — базавая, яна «прыпісана» да музычнага вучылішча, якое на яе вопыце праводзіць метадычную работу. Паказальны тут такі факт, што адна трэць усіх выкладчыкаў, а іх каля сотні чалавек, з'яўляюцца выпускнікамі гэтай жа школы. Ёй больш за сорак гадоў, пераехала са старога і пасялілася ў новым цудоўным будынку, дзе ёсць добрыя ўмовы для плённых заняткаў па класах баяна, фартэпіяна, балалайкі, цымбалаў, домры, ударных, духавых і шмат яшчэ якіх інструментаў, з выдатным падборам майстроў-педагогаў і шматлікімі вучнямі — пераможцамі рэспубліканскіх і іншых конкурсаў. І сама ідэя размяшчаць падобныя ўстановы ў мікрараёнах, дзе на дваццаць тысяч жыхароў адзіным месцам культурнага адпачынку з'яўляецца відэасалон, дзе вулічнае выхаванне з «апорай» на культ долара, кулака і п'янства разам з разгулам памаладзеўшай сексуальнай рэвалюцыі значна перасягае ўсе педагагічныя віды і формы ўздзеяння на юначыя душы, выглядае вельмі ўдалай. Школа мае нават свой арган. (І калі ты, паважаны чытач, не адкладзеш гэтае чытанне ўбок, мы яшчэ вернемся да размовы аб ім).

Тое, што і як выконвалася на экзаменах маленькімі музыкамі, дадало майму настрою шмат мажорных нотаў. Трэба было бачыць, з якім стараннем і зацікаўленасцю здавалі яны першыя ў сваім жыцці іспыты, якім натхненнем гарэлі іх вачаняты. Колькі сілы і ўпэўненасці надавала ім усведамленне таго, што яны могуць іграць, рабіць першыя крокі ў таямнічы свет музыкі, які адкрывае сваё хараство толькі ім. І нават у гэтых першых спробах ужо праскоквалі «божыя іскры»... На вялікі жаль, не аб іх даводзіцца гаварыць.

Стыхія татальнага перабудовачнага разбурэння і разграблення ламае і крышыць ушчэнт усё, што трапляецца пад руку, без перадыху заклікаючы да пераходу на новыя рыначныя адносіны. Дабралася яна, вядома, і да музычных школ. Дарэчы, і сам гэты «нулявы» клас быў створаны, каб неяк падняць заробак настаўнікаў, які сёння намнога не дасягае заработнай платы рабочага, не кажучы пра бізнесмена. (Хто гэтага не ведае? Сваім шалёным ціскам матэрыяльнага «слупа», неаднолькавымі стартавымі ўмовамі стыхія ўганяе ў друз разбуранага «старога свету» перш-наперш пенсіянераў, інвалідаў, студэнтаў, інтэлігенцыю — гэту інтэлектуальную патэнцыю дзяржавы).

Праўда, плата за навучанне спачатку была невялікая, затым у падрыхтоўчых класах рэзка падскочыла да ста рублёў, а ў наступным годзе гэты скачок, па самых прыблізных падліках учарашняга дня, будзе ў пяць разоў вышэйшым. І бацьку, які чамусьці да гэтага часу не стаў прадпрымальнікам, давядзецца добра падумаць, перш чым аддаць свайго таленавітага нашчадка ў музычную школу. Падумаць і ўлічыць, што піяніна каштуе мінімум 24 тысячы рублёў, раяль — 340 тысяч. «Фанерная» гітара Барысаўскай фабрыкі музычных інструментаў цягне на тысячу з гакам. Вы хочаце зрабіць індывідуальны заказ? Плаціце пяць тысяч. Урэшце няма цяжкасцей, каб здабыць і кляновую гітару, калі маеце 15 тысяч. У гадзіну, вольную ад урокаў і рэпетыцый, настаўнікі з двух прапанаваных струн плятуць адну...

Даражаюць білеты ў канцэртныя залы, як і арганізацыя паказаў і конкурсаў. Каб скараціць транспартныя расходы пры правядзенні адборачнага тура, журы конкурсу духавой музыкі выязджала ў кожную музычную школу асобна...

Але думаць трэба не толькі бацькам. І, здаецца, разумных галоў не бракуе. Адно колькі людзей працуе над фарміраваннем бюджэту для патрэб культуры: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў, Міністэрства культуры, мясцовыя органы ўлады. Але па-першае, ужо прыняты да выканання бюджэт проста не паспявае карэкціравацца, даганяць рост цэн і паказчыкі інфляцыі. Па-другое, яго размеркаванне ажыццяўляецца па даўно і сумна вядомай тэхналогіі. Фінансавыя асігнаванні на культуру месцяцца ў адным артыкуле бюджэту, разам з адукацыяй і аховай здароўя. Ёсць агульная сума, якая потым дзеліцца на часткі, і што застанецца — накіроўваецца мясцовымі ўладамі ў культурную сферу. Той жа астаткавы прынцып! Дадайце да яго яшчэ і суб'ектыўны фактар: хто з кіраўнікоў той ці іншай установы найбольш пераканаўча дакажа, што яго клопат самы востры, той і атрымае больш...

Назіраецца і тэндэнцыя да змянення сеткі музычных школ, якіх у гэтым навучальным годзе на 30 стала менш, пераважная іх колькасць закрылася ў калгасах.

— Цяпер гаворка не ідзе аб адкрыцці нечага новага. Галоўнае захаваць тое, што ёсць,—кажа вядучы спецыяліст аддзела навучальных устаноў і кадраў Міністэрства культуры РБ Валерый Выстаўкін. — Мы шукаем выйсце са складанага становішча. Напрыклад, калі сям'я не ў стане прыдбаць піяніна, робім так, каб дапамагчы ўзяць яго напракат. У выхадныя дні ладзім рэпетыцыі. Трэба пашыраць такую работу, як спонсарства. Скажам, ва Уруччы (адзін з мікрараёнаў Мінска) на базе агульнаадукацыйнай школы спонсары адкрылі музычную.

— Становішча будзе пагаршацца з кожным днём. Ніхто не можа прагназіраваць сітуацыю. Са свайго боку, мы разглядаем пытанне аб стварэнні музычных школ такога тыпу непасрэдна пры музычных вучылішчах. Другі напрамак — заснаванне музычных ліцэяў пры найбольш моцных школах. Вось ужо год такі ліцэй існуе ў былой школе № 1 г. Магілёва. Для ліцэяў лягчэй будзе канцэнтраваць сродкі, падабраць больш падрыхтаваных выкладчыкаў.

У Беларусі ёсць школы з багатымі традыцыямі і аўтарытэтам, такія як Салігорская, Пінская, Барысаўская, некалькі мінскіх, якія пры ўсякім раскладзе будуць існаваць. Школы ж сістэмы міністэрства, мяркую, будуць займацца прафесійнай падрыхтоўкай, а функцыі агульнаэстэтычнага выхавання пяройдуць у агульнаадукацыйную школу, — лічыць галоўны спецыяліст таго ж аддзела Аляксандр Сасновіч.

Пры гэтым жа міністэрстве ёсць і спецыяльны фонд для развіцця культуры. Загадам міністра выдзелены імянныя стыпендыі для вучняў, якія стануць пераможцамі міжнародных конкурсаў. Тым не менш зразумела: дзяржава ў нашых варунках не здольна поўнасцю забяспечыць жыццядзейнасць культурных устаноў. З тых трох працэнтаў, якія па закону павінны выдзяляцца на мэты культуры, яна асігнуе ўсяго 1,4.

Ды якой бы несправядлівай, злоснай, эгаістычнай ні выглядала la mere de Kuzka, мама нашага добрага знаёмага Кузькі, якую паказвае нам крызіс, нельга не адзначыць: на квітнеючым дэмакратыяй і дабрабытам Захадзе і музычная адукацыя, і інструменты, і білеты — рэч дарагая, даступная далёка не ўсім. А рыначная эканоміка, прадпрымальніцтва намі выбраны як арыенцір. Па ўсім відаць, што і ў гэтую адукацыйную сістэму прыйдзе многаўкладнасць: дзяржаў-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# «СКУЛЬ, ЯКОГА МЫ РОДУ?»

[Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.].

схемы, якая па сваёй сутнасці нічым не лепшая за тыя, аб якіх ішла гаворка вышэй. Цяжка, проста немагчыма не бачыць тую трывалую этнамоўную аснову, якая забяспечвала роднасць розных усходнеславянскіх груповак, што рассяляліся ад Ноўгарада Вялікага да Тмутаракані і ад басейна Акі да Карпат. Агульнае паходжанне, роднасць розных груповак у самых разнастайных, неаднолькавых этнаграфічных, геаграфічных, моўных умовах на велізарных прасторах падкрэслівалася і падкрэсліваецца, перш за ўсё, моўнымі прыкметамі, якія аб'ядноўваюць усе ўсходнеславянскія гаворкі і адначасова адрозніваюць іх ад заходне- і паўднёваславянскіх моў і гаворак.

Найбольш характэрныя моўныя прыкметы ўсходніх славян (гл. аб іх, у прыватнасці, у кнізе Ф. Філіна «Происхождение языка восточных славян». Л., 1962), на наш погляд, пачалі фарміравацца на рубяжы новай эры ў арэале так званай зарубінецкай культуры, якая распаўсюджвалася ад вярхоўяў Прыпяці і Заходняга Буга да вярхоўяў і сярэдняга цячэння Паўднёвага Буга і Днястра, а таксама да Сярэдняга Падняпроўя. Арэальнае адзінства ўсходнеславянскай супольнасці было парушана ў II—III стагоддзях у выніку перасоўвання готаў, русаў і іншых германамоўных і кельтамоўных у сваёй аснове племянных груповак з Паўднёвай Прыбалтыкі ў Паўночнае Прычарнамор'е і іншыя землі. Потым гэтае адзінства аднавілася і існавала да VI—VII стагоддзяў, хоць у ім ужо намецілася размежаванне (археолагам, напрыклад, добра вядома культура пражскага тыпу на Валыні і ў паўднёвым, Жытомірскім, Палессі, з аднаго боку, і культура антаў у міжрэччы Днястра і Дняпра VI—VII стагоддзяў). У пачатку VII стагоддзя ўсходнеславянскае адзінства было канчаткова парушана нашэсцем авараў—«обраў». З гэтага часу пачынаецца рух усходнеславянскіх груповак, у прыватнасці, на поўнач, у цяперашнюю Беларусь.

6. Аб рухах і перасоўваннях народаў увогуле. Нават у працах таленавітых даследчыкаў (таго ж М. Ермаловіча) чытаем: крывічы прыйшлі адтуль, радзімічы — адсюль і г. д. Між тым сама пастаноўка пытання — «адкуль прыйшоў народ?» — з'яўляецца няправільнай. Крывічамі, радзімічамі, дрыгавічамі і да т. п. самі народы (групоўкі) сталі ў тым арэале, дзе застае іх летапісец. Калі ж гаварыць аб якім-небудзь магчымым прыходзе пэўных этнічных груп, то імі былі **толькі продкі** крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, іншых «народцаў», пра якіх ёсць звесткі ў «Повести временных лет». Крывічы, радзімічы, дрыгавічы сфарміраваліся ў выніку ўзаемадзеяння, зліцця, скрыжавання этнамоўных груп, якія перасоўваліся з поўдня ў сярэдзіне 1 тысячагоддзя новай эры пасля нашэсця авараў і з захаду, паўночнага захаду, «ад ляхаў» у другой палове гэтага тысячагоддзя. Дамінуючай, вызначальнай, аднак, была тая аснова, якая паходзіла з поўдня, з арэала былой зарубінецкай культуры. Гэтую аснову ўмоўна можна назваць «дулебскай» (дулебамі называліся тыя славяне, на якіх напалі авары ў пачатку VII стагоддзя). Цікава, што дрыгавічы называліся **дулебамі** яшчэ ў X стагоддзі (гл. аб гэтым падрабязна ў нашай кніжцы «Сцежкі ў даўніну: расказваюць геаграфічныя назвы Беларускага Палесся». — Мн. Полымя, 1991). **Дрыгавічамі** ж яны назваліся пад уплывам перасяленцаў з польскага Памор'я і «ад ляхаў»: дрыгавічы — патомкі Драгавіта (слова **дрыгва** тут ні пры чым), якім быў пэўны правадыр, князь. Заходнія продкі радзімічаў так і зваліся — **ляхамі**. Не выпадкова ўздоўж Прыпяці, уздоўж таго шляху, па якому рухаліся ў даўнія часы перасяленцы з захаду (былі і іншыя шляхі), ланцужком працягнуліся геаграфічныя найменні тыпу **Ляхавічы, Ляхаўцы,** самыя старыя з усіх падобных найменняў у іншых раёнах Беларусі. Менавіта так мы чытаем летапісны радок: «а радзімічы і вяцічы — ад ляхаў». Крывічы таксама фарміраваліся ў выніку ўзаемадзеяння «паўднёвых» і «заходніх» перасяленцаў, але ж дамінуючай была «паўднёвая», «дулебская» аснова (адсюль — шчылінны гук **Г** у крывіцкай гаворцы; назвы ракі Палаты і горада Полацка тлумачацца пры дапамозе фактаў дунайскага і балканскага этнамоўных арэалаў).

7. Самая непрымальная «схема», якая «качуе» па многіх навуковых працах (М. Піліпенка таксама яе выкарыстоўвае), — прызнанне значнага ўдзелу балтаў у этнагенезе беларусаў. На чым грунтуецца даная «схема»? Перш за ўсё, на працах археолагаў. Аднак інтэрпрэтацыя археалагічных матэрыялаў у археалагічнай літаратуры вельмі супярэчлівая. Напрыклад, вядомы маскоўскі археолаг В. Сядоў лічыць, што да сярэдзіны 1 тысячагоддзя новай эры **ўся** тэрыторыя Беларусі была заселена **выключна** балтамі (падкрэслена намі. — **А. Р.**). А вось мінскі археолаг Л. Пабаль, наадварот, абгрунтоўвае прыналежнасць большасці археалагічных культур старажытнай Беларусі жалезнага веку славянам. Відаць, мае рацыю не менш знакаміты гісторык Л. Гумілёў, які сцвярджае: магчымасці археалогіі абмежаваны; эпоху можна вызначыць здавальняюча, а вось этнічны склад—немагчыма (гл. яго даследаванне «Древняя Русь і Великая степь.—М., 1989). Застаецца адзіна надзейная крыніца інфармацыі для вызначэння этнічнай прыналежнасці насельніцтва Беларусі ў 1 тысячагоддзі новай эры —этнічныя і геаграфічныя назвы (этнанімія, тапанімія, гідранімія). Моўныя матэрыялы якраз і не пацвярджаюць нагаданую вышэй думку В. Сядова. Больш таго, яны ж сведчаць, што балты не адыгралі і якой-небудзь значнай ролі ў фарміраванні крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Балты не маглі засяляць усю тэрыторыю Беларусі, паколькі тут была перыферыя іх этнамоўнага арэала. Цэнтр балцкіх плямён спрадвеку знаходзіўся ў паўднёва-усходняй Прыбалтыцы, паўднёва-ўсходняя граніца суцэльнага іх рассялення праходзіла па Нёману, потым рабіла круты паварот у бок Мінска — Заслаўя і, нарэшце, ішла па лініі Лагойск — Вілейка — Мядзель — Браслаў. На ўсход, поўдзень і паўднёвы ўсход ад гэтай лініі сустракаліся толькі асобныя балцкія этнічныя «астравы», больш ці менш буйныя, колькасць якіх па меры аддалення ад цэнтра змяншалася.

Аб тым, што балты і славяне (продкі беларусаў) не маглі сустрэцца раней першай паловы—сярэдзіны 1 тысячагоддзя новай эры, сведчыць найменне **гуды** (па паходжанні яно звязана з найменнем **готы**), якое літоўцы ўжываюць для абазначэння беларусаў. Готы, якія ў самым пачатку новай эры прасоўваліся з Паўднёвай Прыбалтыкі на паўднёвы ўсход, у Прыдняпроўе і далей — у Прычарнамор'е, аказалі моцны ўплыў на старажытных айстаў (так яшчэ рымскі гісторык назваў усю сукупнасць балцкіх плямён, у далейшым гэта назва — **айсты** — перайшла на прыбалтыйскіх фінаў — эстаў, эстонцаў). Уздзеянне готаў на айстаў-балтаў было такім вялікім, што апошнія захавалі этнічнае найменне **готы** і перанеслі яго на тое насельніцтва, якое з'явілася на паўднёва-ўсходнім балцкім рубяжы пасля адходу готаў на поўдзень, гэта значыць пасля II—III стагоддзяў новай эры (падрабязна аб гэтых цікавых падзеях мы расказалі ў артыкуле «Этнонім гуды на геаграфічнай карце: пошукі гістарычнай матывацыі», які надрукаваны ў часопісе «Советская этнография», № 6 за 1989 г.).

8. Што такое субстрат увогуле? Гэта тое, што ляжыць у аснове якіх-небудзь з'яў. Гаварыць аб субстраце этнічным і моўным. Моўны субстрат — гэта мова мясцовага насельніцтва, якая асімілявана, «засвоена» мовай прышэльцаў, гэта элементы мовы, якую перамаглі, у мове народа-пераможцы. Дык вось, ні аб якім балцкім моўным субстраце на тэрыторыі Беларусі гаварыць нельга.

Тапанімічныя матэрыялы паказваюць, што поўнач і паўночны ўсход Беларусі ў сярэдзіне 1 тысячагоддзя новай эры займалі фіна-угорскія насельнікі. Асобныя фінскія «астравы» меліся ва Усходнім Палессі. У Пасожжы, а таксама ў Заходнім Палессі і нават у Верхнім Панямонні існавалі «астравы» іранамоўнага насельніцтва. Заходняе Палессе, аднак, уваходзіла ў старажытны ўсходнеславянскі арэал (на Піншчыне шмат самых старажытных славянскіх тапонімаў). Усё гэта не азначае, што мы адмаўляем балцкі субстрат і абгрунтоўваем удзел фінаў і іранцаў-скалотаў (гэта энтічнае імя апошніх) у фарміраванні беларусаў. Гістарычная тапанімія Беларусі дае падставу сцвярджаць наступнае: у Верхнім Падняпроўі, парэччы Прыпяці і Заходняй Дзвіны ў сярэдзіне 1 тысячагоддзя новай эры склаўся моўны саюз, кампанентамі якога былі мовы паўночна-заходняй часткі ўсходніх славян, балтаў і фіна-уграў. Саюз — гэта не субстрат, розніца тут вялікая і істотная.

9. «Правобраз» беларусаў, такім чынам, пачынае складвацца прыкладна з сярэдзіны 1 тысячагоддзя новай эры (пасля VI—VII стагоддзяў). Першай рэалізацыяй гэтага правобраза з'явіліся палачане (жыхары Полацкай зямлі) — тэрытарыяльна-палітычная супольнасць, фарміраванне і развіццё якой ішло ў напрамку да ўтварэння асобнага народа. У Прыдзвінні знаходзіўся цэнтр этнамоўнага прабеларускага арэала, адкуль ішлі на прабеларускую «перыферыю» (на поўдзень) асноўныя імпульсы. Полацкая зямля кантралявала «перыферыю» і ў палітычным плане (князь Рагвалод у сярэдзіне X стагоддзя пашырыў свае ўладанні да Прыпяці). Палітычны фактар абумоўліваў асаблівасці фарміравання беларускага этнасу. На поўдзень ад умоўнай лініі Ашмяны — Мінск — Бабруйск — Гомель да рубяжа IX—X стагоддзяў склаўся яшчэ адзін патэнцыяльны прабеларускі цэнтр (дрыгавіцкі), які ў палітычным плане процістаяў імкненням Полацка аб'яднаць землі ад Заходняй Дзвіны да Прыпяці. Аднак саперніцтва «паўночнага» і «паўднёвага» прабеларускіх цэнтраў аказалася ў значнай ступені згладжаным наступнымі палітычнымі падзеямі другой паловы IX стагоддзя. Палітычная і этнічная гісторыі народа ўзаемазвязаны, хоць іх і нельга атаясамліваць. Дык вось, спачатку ў канцы 60-х гадоў IX стагоддзя абодва прабеларускія цэнтры аказаліся ў сферы палітычнага ўплыву Кіева (кіеўскі князь Аскольд захапіў Полацк), а ў пачатку 80-х гадоў гэтага стагоддзя прабеларуская этнічная тэрыторыя аказалася ўключанай у межы велізарнага палітычнага ўтварэння зноў-такі з цэнтрам у Кіеве, якое па тэрыторыі ахоплівала большую частку Усходняй Славіі. У 882 годзе правіцель паўночнай Русі князь Алег, які да гэтага здолеў аб'яднаць Ноўгарад, Ладагу, Полацк, Растоў, Мурам, іншыя цэнтры пад сваёй уладай, з велізарнай арміяй зрабіў паўднёвы паход, захапіў Смаленск, Любеч, узяў уладу ў Кіеве і перанёс у гэты горад сваю сталіцу. Процістаянне двух цэнтраў Русі — паўночнага і паўднёвага, якое абвастрылася ў сярэдзіне IX стагоддзя, было ліквідавана шляхам палітычнага аб'яднання Усходняй Славіі. Перамога Алега была перш за ўсё палітычнай, а потым ужо—ваеннай: летапісы не рысуюць крывавых сутыкненняў у час паходу на Кіеў, хоць у 883—885 гадах князь Алег ужо сілай падпарадкаваў драўлян, севяран, радзімічаў.

Пасля гэтых падзей пачаўся «рэнесанс» усходнеславянскага адзінства, якое, здавалася б, канчаткова было страчана ў пачатку VII стагоддзя. Адраджэнне ўсходнеславянскага адзінства ішло ў рамках Кіеўскай дзяржавы Алега і яго паслядоўнікаў— князя Ігара, княгіні Вольгі, князёў Святаслава, Уладзіміра, Яраслава Мудрага пад уздзеяннем кансалідуючай ролі славянскага этнічнага і моўнага кампанента. Славянскія групоўкі, якія рассяліліся на велізарных прасторах Усходняй Славіі, па-першае, добра асэнсоўвалі, адчувалі сваю агульную аснову, роднасць, агульнае паходжанне, а па-другое, выступалі ў якасці кансалідатара ўсіх астатніх, неславянскіх плямёнаў і народаў — балтаў, фіна-уграў, цюркаў, рэшткаў іранцаў-скалотаў. Трэба ўлічваць і рэлігійны фактар: афіцыйнае ўвядзенне хрысціянства таксама адыграла немалую ролю ў кансалідацыі Старажытнай Русі, у адраджэнні яе адзінства ў IX-XI стагоддзях. Усё гэта і дае падставу вучоным сцвярджаць аб узнікненні старажытнарускай народнасці ў адзначаны час. І ўсё ж адзінага ў поўным сэнсе гэтага слова старажытнарускага народа не ўзнікла. Па-першае, «рэнесанс» этнічнага і моўнага адзінства ўсходніх славян ужо ў канцы XI стагоддзя замарудзіўся, а неўзабаве і ўвогуле прыпыніўся. У XII стагоддзі поўным ходам ішло фарміраванне рускага, беларускага і ўкраінскага этнасаў, рускай, беларускай і ўкраінскай моў. Па-другое, сам гэты ўсходнеславянскі «рэнесанс» усходнеславянскага адзінства **нельга разумець толькі як этнагенез, як фарміраванне народа, народнасці.** Гэта быў перш за ўсё «рэнесанс» усходнеславянскага культурнага адзінства. Некаторыя відныя беларускія, ды і не толькі беларускія гісторыкі ў літаральным сэнсе **закрываюць вочы на тое, што** ў X—XII стагоддзях проста відавочнае існаванне прыкмет пэўнага ўсходнеславянскага **адзінства.** Такімі прыкметамі з'яўляліся літаратурная старажытнаруская мова, агульная назва тэрыторыі—**Русь** і агульнае этнічнае найменне — **русь, русіны, русічы**, пэўныя агульныя рысы ў матэрыяльнай і духоўнай культуры (быліны, святы, абрады, сялянскі рускі, украінскі, беларускі касцюм і г. д.). Такім чынам, існаванне ўсходнеславянскага адзінства ў X—XII стагоддзях відавочнае, толькі гэтае адзінства мы б назвалі не столькі этнічным, колькі культурным, а па тэрміналогіі вядомага гісторыка Л. Гумілёва, суперэтнічнай цэласнасцю. Дарэчы, існаванне, з аднаго боку, агульнай назвы **Русь,** а з другога боку, — яе, скажам так, «тэрытарыяльных варыянтаў» — **Русь Белая, Русь Чырвоная, Русь Чорная, Русь Малая, Русь Вялікая** пацвярджаюць тое, аб чым ідзе гаворка. У рамках федэратыўнай Старажытнарускай дзяржавы ў IX—XI стагоддзях на аснове культурнага адзінства, этнічнай і моўнай роднасці ўсходніх славян ішлі інтэграцыйныя працэсы, якія ў далейшым, у XII стагоддзі, замарудзіліся і спыніліся.

10. Культурная, суперэтнічная цэласнасць на тэрыторыі Усходняй Славіі цэментавалася двуяверствам. Мы зноў-такі спасылаемся на Л. Гумілёва, таму што яго думкі здаюцца нам самымі непрадузятымі ў параўнанні з думкамі многіх іншых сучасных даследчыкаў. Дык вось, гэты вучоны паказвае, што хрысціянства і язычніцтва на Русі прараслі адно праз другое, у выніку ж узнік своеасаблівы варыянт ідэалогіі, які і называецца двуяверствам. Двуяверства, на думку Л. Гумілёва, замацавала многія этнасы, у тым ліку і тыя ўсходнеславянскія, што ўжо фарміраваліся, у суперэтнічную цэласнасць. Дададзім да гэтага вось яшчэ што. На ранніх этапах хрысціянізацыі Русі (да афіцыйнага хрышчэння), а таксама ў канцы X — пачатку XI стагоддзяў большасць хрысціянскіх абшчын на ўсходнеславянскай тэрыторыі звярталася да кірыла-мяфодзіеўскай хрысціянскай і асветніцкай традыцыі, мела цесныя сувязі са славянскімі хрысціянскімі абшчынамі Маравіі і Панoніі. Славянскія першанастаўнікі Кірыла і Мяфодзій арыентаваліся на традыцыі ранняга хрысціянства, для якога была непрымальная тая царкоўная іерархія, што складвалася ў Рыме і Канстанцінопалі.

Уладзімір Манамах (памёр у 1125 годзе) і яго сын Мсціслаў Вялікі (памёр у 1132 годзе) лічацца апошнімі князямі адзінай Русі. І гэта не выпадкова. Справа ў тым, што гэтыя князі, таксама як і іх папярэднікі — Усевалад Яраславіч, Яраслаў Мудры, з'яўляліся лідэрамі візантыйскай хрысціянскай партыі на Русі. Гэтую партыю адрознівала нецярпімасць да іншаверцаў (язычнікаў, «лацінян», «заходнікаў», гэта значыць тых, хто працягваў кірыла-мяфодзіеўскія традыцыі) і прыхільнасць да цэнтралізаванай іерархіі. Мне могуць запярэчыць, што, маўляў, менавіта пры Яраславе Мудрым адбыўся царкоўны разрыў Русі з Візантыяй і ў Кіеве быў пастаўлены свой уласны, рускі мітрапаліт — Іларыён, аўтар знакамітага «Слова о законе и благодати», а таксама заснаваны Кіева-Пячэрскі манастыр — цытадэль рускага праваслаўя. Усё гэта так, але «візантыністы» часоў Яраслава і яго ўнука Уладзіміра Манамаха — гэта не сляпыя выканаўцы волі візантыйскага патрыярха і не маўклівыя праваднікі палітыкі Візантыі. «Візантыністы» — гэта тыя, хто пераняў арганізацыйную структуру візантыйскай царквы з яе строгай іерархіяй, яе бязлітаснай нецярпімасцю да прыхільнікаў розных «ерасей» і дапоўніў усё гэта ідэяй выбранасці рускай праваслаўнай царквы, яе першынствуючага становішча ў праваслаўным хрысціянскім свеце. Гэтая ідэя ў далейшым, у паслямангольскі час, стала галоўнай не толькі ў царкоўнай, але і ў дзяржаўнай палітыцы Русі — Масковіі. А ў XI—XII стагоддзях, у часы Яраслава Мудрага і Уладзіміра Манамаха, адбылося канчатковае крушэнне той хрысціянскай партыі, якая абвяшчала цудоўную і прыцягальную ідэю роўнасці ўсіх народаў і іх веравызнанняў, арыентавалася на дэмакратычныя традыцыі ранняга хрысціянства. А гэта азначала і крушэнне няхай і адноснага, але ўсё ж адзінства Старажытнай Русі.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

